# МІНСКАЯ ПРАЎДА

Газета заснавана 1 лістапада 1950 года | Аўторак, 1 чэрвеня 1993 года | № 62 (10613) | Цана 5 руб.

В партиях и движениях

## ОБЪЕДИНИЛИСЬ!

**Никогда, пожалуй, за всю историю коммунистического движения в республике не было такого накала страстей в отстаивании своих мнений, предложений, как на II /объединительном/ съезде Партии коммунистов Беларуси. Он работал с 29 по 30 мая с.г. в Минске. На съезд прибыли 473 делегата.**

**В повестку дня этого высшего форума были включены вопросы: отчет Политисполкома о проделанной после Учредительного съезда ПКБ работе и очередных задачах партии на ближайший период, о Программе партии, об изменениях и дополнениях в Уставе ПКБ, выборы руководящих органов партии.**

**По первому вопросу с докладом выступил сопредседатель Политисполкома А.Лашкевич. Он дал глубокий и всесторонний анализ кризисной экономической, политической и социальной ситуации в республике, вскрыл причины тяжелого положения в государстве и падения жизненного уровня трудового народа. Вот лишь несколько фактов из его доклада.**

**За полтора года "бумажного" суверенитета национальный доход и уровень промышленного производства снизились на четверть, производство сельскохозяйственной продукции в прошлом году сократилось на 10% и продолжает сокращаться. Снижается реальная зарплата рабочих и служащих, ухудшается обеспечение населения товарами первой необходимости, резко обострилась жилищная проблема. Зато более чем на 35% увеличилось производство алкоголя, смертность возросла на 5%, рождаемость упала на 4,9%.**

**К этим и другим негативным тенденциям не может быть безразлична коммунистическая партия -- единственная выразительница интересов людей труда. Вот почему делегаты после недолгих дискуссий решили все-таки на этом съезде принять Программу.**

**С докладом об ее узловых моментах выступил сопредседатель Политисполкома В.Чикин. Он раскрыл причины и уроки кризиса, определил главные задачи в политической, экономической, социальной, идеологической и других областях, имеющие важнейшее значение для возрождения материальных и духовных сил нашего народа на пути социалистического строительства. Один раздел Программы посвящен партии.**

**Затем начались выступления делегатов. Жаркие дебаты переходили в широкую дискуссию и острую полемику. Было принято разумное решение образовать комиссии и дать им возможность обстоятельно поработать, внести все письменные поправки и замечания, а затем эти документы предложить на рассмотрение делегатов.**

**Так и было сделано. И вновь несколько часов продолжались выступления. Около 300 человек желали высказаться только по Программе ПКБ. Так что форум у коммунистов был в полном смысле демократичным, принципиальным и деловым.**

**Съезд принял постановление по отчетному докладу, Программу ПКБ, изменения и дополнения в Уставе, Обращение к белорусскому народу и Верховному Совету Республики Беларусь. Все эти документы и подробный отчет будут опубликованы в газете "Мы и время".**

**В целях сохранения единства коммунистического движения, создания единой организации в республике участники съезда согласились с решением XXXII /внеочередного/ съезда КПБ о присоединении КПБ к ПКБ, которая приняла на себя все права и обязанности КПБ.**

**Съезд принял решение впредь именовать компартию так: Партия коммунистов Беларуси, а рабочий орган -- ЦК партии. Решено не избирать первого секретаря ЦК партии, а создать коллективный орган руководства -- секретариат, в который вошло семь человек. Избрана ревизионная комиссия.**

**Итак, свершилось одно из важнейших исторических событий в жизни коммунистов Беларуси, готовых отстаивать жизненные интересы трудящихся, Советскую власть и построить общество, свободное от эксплуатации, основывающееся на принципах социального равенства и справедливости.**

/НАШ КОРР./.



ФАКТЫ ПАДЗЕІ
АРГУМЕНТЫ МЕРКАВАННІ

## ПАВЯЛІЧВАЕЦЦА КОЛЬКАСЦЬ МАЛЫХ ПРАДПРЫЕМСТВАЎ

**Паводле даных Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па статыстыцы і аналізу, малых прадпрыемстваў і таварыстваў з абмежаванай адказнасцю ў рэспубліцы становіцца ўсё больш.**

На сённяшні дзень у выканаўчых камітэтах мясцовых Саветаў зарэгістравана каля 9 тысяч гэтых новых структур рыначнай эканомікі. У іх занята каля 110 тысяч чалавек. Акрамя таго, больш як 85 тысяч грамадзян працуюць у малых прадпрыемствах на дагаворных умовах і яшчэ каля 20 тысяч -- па сумяшчальніцтву.

Большасць з гэтых прадпрыемстваў занята ў гандлі і грамадскім харчаванні -- 2.393. Каля паўтары тысячы з іх асвойваюць рынак у сферы будаўніцтва. Замыкаюць спіс малыя прадпрыемствы і таварыствы з абмежаванай адказнасцю, якія заняты вырашэннем транспартных і сельскагаспадарчых праблем, -- адпаведна 93 і 147. На ніве народнай адукацыі працуюць 54 прадпрыемствы.

БЕЛІНФАРМ.

## ЗАСУХА НЕ ПРЫ ЧЫМ

***Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь прыняў пастанову аб мерах па забеспячэнню нарыхтоўкі кармоў з ураджаю 1993 года. У ёй адзначаецца, што ў апошнія гады, і асабліва летась, адбылося рэзкае змяншэнне аб'ёмаў вытворчасці і нарыхтоўкі кармоў. Такое становішча з'явілася вынікам не толькі засухі, але і аслаблення ўвагі да гэтай галіны.***

*З улікам паляпшэння матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння калгасаў, саўгасаў і сялянскіх (фермерскіх) гаспадарак, высокай арганізацыі работ на ўборцы кармавых культур сёлета неабходна забяспечыць на ўмоўную галаву жывёлы не менш за 14 цэнтнераў кармавых адзінак травяных кармоў.*

*Рэкамендавана кіраўнікам калгасаў і саўгасаў праводзіць аплату працы рабочых і служачых прадпрыемстваў, прыцягнутых на нарыхтоўку кармоў на дагаворнай аснове, у тым ліку з выкарыстаннем натуральнай аплаты.*

*Ставіцца задача забяспечыць пастаўку ў III квартале 1993 г. сельскагаспадарчым спажыўцам 260 тыс. тон аўтамабільнага бензіну, 450 тыс. тон дызельнага паліва і нарматыўнай колькасці змазачных матэрыялаў, а таксама поліпрапіленавага шпагату, папяровых мяшкоў і поліэтыленавай плёнкі ў адпаведнасці з іх заяўкамі.*

*Пастаўленая задача можа быць выканана, калі Нацыянальны банк у маі-ліпені 1993 г. знойдзе магчымасць выдзеліць крэдытныя рэсурсы Аграпрамбанку ў суме 45 млрд. рублёў для крэдытавання затрат, звязаных з нарыхтоўкай кармоў і набыццём матэрыяльна-тэхнічных рэсурсаў, а таксама авансавых выплат гаспадаркам у размеры 30 працэнтаў кошту травяной мукі.*

*Пастановай прадугледжваецца зрабіць выплату гаспадаркам авансу ў размеры 30 працэнтаў кошту травяной мукі, прадугледжанай да пастаўкі імі па дагаворах прадпрыемствам камбікормавай прамысловасці.*

*Прыняты і іншыя меры, накіраваныя на забеспячэнне жывёлы дастатковай колькасцю якасных кармоў.*

## "З КРЫНІЦЫ песня льецца..."

**Пад такім дэвізам у суботу ў г.п. Узда адбылося свята дзіцячай народнай творчасці. Чацвёрты год запар праходзіць яно на Уздзеншчыне напярэдадні Міжнароднага дня абароны дзяцей па ініцыятыве дырэкцыі раённага Дома культуры.**

І на гэты раз сабраліся сюды юныя таленты, якія паказалі выдатнае веданне фальклорнай спадчыны. Сакавіта, эмацыянальна спявалі дзеці песні, якія ідуць з крыніц народных.

Па-сапраўднаму артыстычны калектыў склаўся ў школе мастацтваў, якім кіруе Наталля Якавенка. Прыемна было аказацца і на "Пасядзелках", куды запрасілі вучні з Ліцвянскай сярэдняй школы імя П.Ф.Глебкі. "Цячэ вада ў ярок", "А я ў печы не паліла..." -- вось няпоўны пералік песень артыстаў з вёскі Каралёва. Танцамі ў сучасных рытмах разнасталі праграму гуртоўцы з Дома дзіцячай творчасці.

Своеасабліва аздобілі свята зазывалы-вядучыя, непрымірымыя суседкі Сымоніха і Лявоніха, якія пасля ўручылі кожнаму дзіцячаму калектыву па вялікаму смачнаму пірагу.

Святлана МІХАЙЛОЎСКАЯ.



*Пра трактарыста Уздзенскай меліярацыйнай ПМК-69 Івана **Амроміна** гаварыць: "Чалавек на сваім месцы". Пятнаццаць гадоў ён працуе на Т-150: зімой -- з прычэпам, летам -- з дыскамі і плугамі.*

Фота Анатоля БАСАВА.

## З АРХІВАЎ КДБ -- У МУЗЕЙ

**Год назад дырэктар Слуцкага гісторыка-краязнаўчага музея Валянціна Відлога звярнулася да начальніка раённага аддзялення ўпраўлення КДБ па Мінскай вобласці Уладзіміра Паляшчука з просьбай: пасадзейнічаць у перадачы музею матэрыялаў, якія праліваюць святло на падзеі, звязаныя са Слуцкім паўстаннем канца 1920 года.**

Да яе просьбы аднесліся з разуменнем. Тым больш што ў канцы мінулага года ў дэмакратычных і навуковых колах Рэспублікі Беларусь адзначаліся 72-я ўгодкі паўстання.

Трэба аддаць належнае супрацоўнікам абласнога ўпраўлення КДБ, якія пастараліся адшукаць у архівах, у тым ліку і з дапамогай калег з Брэста, шэраг матэрыялаў, непасрэдна звязаных з падзеямі тых гадоў.

І вось днямі прыбыўшыя з Мінска намеснік начальніка абласнога ўпраўлення КДБ Браніслаў Халява і старшыня групы грамадскіх сувязей гэтага ведамства Генадзь Санюкоў у прысутнасці старшыні гарвыканкома Аляксандра Сайко перадалі Валянціне Відлога пакет з матэрыяламі. Яны маюць цікавасць для гісторыкаў, навукоўцаў і кожнага, хто не абыякавы да мінулага сваёй Бацькаўшчыны.

Што ў тым пакеце? Валянціна Сцяпанаўна ахвотна пазнаёміла з матэрыяламі. Значная частка іх -- асабістыя дакументы, фотакарткі, каляровыя эскізы герба "Пагоня", успаміны -- належаць удзельніку першага Усебеларускага кангрэса ў Мінску ў 1917 годзе, аднаму з арганізатараў першага з"езда прадстаўнікоў Случчыны ў 1920 годзе Васілю Русаку. Ён пасля паражэння Слуцкага паўстання, у якім прымаў непасрэдны ўдзел, эмігрыраваў у Прагу, жыў і працаваў там. Пасля заканчэння другой сусветнай вайны Русак быў перададзены мясцовымі ўладамі органам дзяржбяспекі СССР і асуджаны. Памёр у ссылцы.

Частка матэрыялаў "высвечвае" яшчэ двух удзельнікаў паўстання: Антося Сокал-Кутылоўскага, камандзіра Слуцкай брыгады. І яго паплечніка, юрыста па адукацыі, Уладзіміра Пракулевіча. Першы пасля заканчэння другой сусветнай вайны быў арыштаваны органамі КДБ, асуджаны за супрацоўніцтва ў перыяд акупацыі з нямецкімі ўладамі і высланы. Вярнуўся з лагера праз 13 гадоў і дажываў век у Ганцавіцкім раёне. У.Пракулевіча таксама не мінула гэткая ж доля. Ён памёр у ссылцы. У іх успамінах занатавана шмат цікавых звестак аб людзях і падзеях перыяду 1917--1920 гадоў, калі ў пакутах нараджалася незалежнасць Беларусі.

Міхась ТЫЧЫНА.
г.Слуцк.

## УСЁ БЫЛО НЕ ТАК

### Адказ на "Крыўду" Галіны Чачэткі

**Паважаная Галіна Іванаўна!**

**Са здзіўленнем прачытаў публікацыю "Нават не выслухалі" ў газеце "Мінская праўда" за 25 мая 1993 года. Прачытаў і глыбока абурыўся!**

**Як жа так атрымліваецца? 17 мая Вы звярнуліся да мяне з просьбай аказаць вашай сям"і матэрыяльную дапамогу. Нягледзячы на вялікую занятасць у той дзень, выслухаў Вас уважліва, гутарылі аб жыцці, узаемных цяжкасцях. У вашай прысутнасці запрасіў у кабінет супрацоўніка апарату -- даверанага ўрача, даручыў яму даследаваць сапраўднае становішча вашай сям"і. Апошні тут жа выехаў на месца, пабываў там, дзе працуе ваш муж, праінфармаваў аб выніках, унёс прапанову.**

**На пасяджэнні прэзідыума абкома прафсаюза 20 мая прынята рашэнне аб аказанні вашай сям"і аднаразовай матэрыяльнай дапамогі ў суме 15 тысяч рублёў /такія пытанні ў нас вырашаюцца толькі калегіяльным органам/. Пры гэтым нам было вядома, што прафсаюзным камітэтам завода "Калібр", дзе Вы працуеце, для аздараўлення вашых дзяцей за кошт сродкаў прафсаюза Вам выдзелены дзве санаторныя пуцёўкі на паўднёвы курорт.**

**Нягледзячы на ўсё гэта і нават не пацікавіўшыся вынікамі вырашэння просьбы ў абкоме, Вы 22 мая аднеслі ў рэдакцыю газеты скаргу, у якой сказілі факты, змест нашай гутаркі. Гэта ж няпраўда, што я прымушаў Вас есці лебяду і папракаў хваробай вашых дзяцей! Ды і гутарку Вы са мной вялі не стоячы, а седзячы на мяккім крэсле. Дзіву даюся: як толькі маглі Вы прыдумаць такое! Хто навучыў Вас такой хлусні і чыю волю выконвалі Вы пры гэтым?**

**Вельмі б хацелася пачуць ад Вас, Галіна Іванаўна, шчырае прызнанне, сапраўдную праўду. Дзеля справядлівасці, дзеля дабра і дабрабыту, якія я ад душы жадаю Вам і вашай сям"і, у імя Вашага ўласнага гонару і чалавечай годнасці.**

Іван СЫРАВЕЖКА,
**выконваючы абавязкі старшыні Мінскага абкома прафсаюза работнікаў аграпрамысловага комплексу.**
**23 мая 1993 г.**

***АД РЭДАКЦЫІ.*** *Дзеля аб"ектыўнасці і непрадузятасці і была прадастаўлена магчымасць выступіць і І.Ф.Сыравежку.*

*Як бачым, гэтая публікацыя начыста абвяргае папярэднюю. Мы не станем праводзіць дазнанне, шукаць сведак, якія прысутнічалі пры размове. Нагадаем толькі, што адказнасць за падбор і дакладнасць апублікаваных фактаў і іншых звестак непасрэдна нясуць аўтары матэрыялаў.*

*Мы ўсе павінны жыць па законах сумленнасці і справядлівасці. І няхай кожны з нас, перш чым кідаць папрок у адрас каго-небудзь, спачатку падумае, ці на трывалым падмурку грунтуюцца нашы абвінавачванні, ці не ставім мы ўсё з ног на галаву.*

## Колькі каштуе вугаль?

**Буйнейшую за апошнія гады партыю кантрабанды выявілі брэсцкія мытнікі ў поездзе "Масква--Варшава".**

У звычайнай кансервавай бляшанцы, схаванай у скрынцы з вугалем, быў знойдзены зліток золата вагой 2 кілаграмы 560 грамаў і больш за паўкілаграма плаціны ў выглядзе дроту, пласцін і шайб.

Агульны кошт гэтага кантрабанднага скарбу склаў у дзяржаўных цэнах 40,5 мільёна рублёў. Вядома ж, гаспадара яго не знайшлі.

БЕЛІНФАРМ.

■ Дети Чернобыля

## Эрих ЗАУЭР: "С ЛЮБОВЬЮ И НАДЕЖДОЙ"

**Все настойчивее раздаются призывы: время болтологии, громких прожектов прошло, пора от лозунгов, митингов перейти к делу. От сотрясания воздуха громкими речами благополучия не прибавится. Как ни парадоксально, но пример того, как действовать в наше непростое время, показывают иностранцы. Один из них -- немец, далеко не богач, принял наши проблемы близко к сердцу и доказывает, что истинные ценности, такие как порядочность, честность, открытость и доверие, не знают границ.**

**-- Господин Зауэр, вас уже многие знают в Белоруссии. Иные идут навстречу вам с распахнутой душой, другие держатся настороже /как же, немец пытается нас поучать/, а маленькие сограждане республики вас просто боготворят. Не смущает вас такой парадокс?**

-- Я рад, что все больше людей во всех уголках планеты склоняются к мысли, что Чернобыль -- общая проблема. Когда я думаю о трагедии белорусского народа, наиболее пострадавшего от радиации, все мои помыслы концентрируются на самом беззащитном и уязвимом слое населения -- детях. Я сам педагог, очень люблю детей и считаю недопустимым, чтобы они страдали. Каждому честному человеку нужно протянуть им руку помощи.

**ОТСТУПЛЕНИЕ ПЕРВОЕ.** ***Для господина Зауэра это не громкие слова. Он принял у себя в пансионате в Тироле 200 пострадавших от радиации детей и подростков, собственноручно опекал и заботился о них. Очень плодотворным был год минувший. За 88 авиарейсов удалось вывезти на оздоровление в Германию 1.850 детей из зараженных радиацией районов Гомельской и Могилевской областей.***



***Разочаровавшись в многочисленных фондах, которые скорее на словах, чем на деле декларируют помощь пострадавшим детям, Эрих Зауэр взвалил на себя груз чернобыльских проблем, пришел к нетрадиционному взгляду на них. Впрочем, ему слово.***

-- Я просто убежден, что нужно проводить черту между чисто человеческими отношениями и помощью детям, пострадавшим от радиации. Как сейчас получается? В какой-то школе выбирают несколько детей и везут в Германию, в немецкие семьи. Там привыкают к этим ребятишкам, считают их за членов семьи, одаривают всевозможными подарками и на следующий год хотят опять их видеть. Но они забывают, что это не чернобыльская помощь, а дружба. Помощь - всех ребятишек забрать, всех оздоровить. Но этого не происходит. А ведь есть дети, которые до сих пор не обследованы, и маленькая деревушка где-нибудь в глубине Гомельщины обречена на вымирание. Оттуда уезжают врачи, учителя. А дети? Что с ними будет? И от этой мысли у меня разрывается сердце.

Германия -- одна из самых "дорогих" стран. В ресторане один обед стоит столько, что у вас можно за эти деньги месяц жить. Я против того, чтобы посылать детей к нам. Мы можем помочь деньгами, и тысячи ваших детей могут пройти курс оздоровления у вас, в живописнейших местах. Мы тратим в Германии на одного ребенка 1.500 марок в месяц, за эти деньги здесь можно оздоровить 20 детей.

Я осмотрел многие из бывших пионерских лагерей в вашей республике. Иногда они пустуют, могут прийти в упадок из-за недостатка средств. Но большая часть их хорошо оснащена, и есть все возможности для оздоровления детей. И тогда родилась идея создания центра отдыха детей под Раковом, который теперь состоит из шести самостоятельных детских городков: "Дорожник", "Дружба", "Верасок", "Березка", "Купалінка", "Світанак". Ежегодно там могут отдохнуть и пройти оздоровление около 15.000 мальчишек и девчонок. Но для этого нужны средства, и немалые.

***ОТСТУПЛЕНИЕ ВТОРОЕ. Эриху Зауэру было дано официальное поручение от Республики Беларусь искать спонсоров в Германии: в общинах, городах, округах, банках, фирмах, церквах, организациях и среди частных лиц, которые могли бы оказать прямую и непосредственную помощь детям, пострадавшим от радиации. Но к тому времени в журнале "Шпигель" был опубликован большой материал о том, что на оздоровление в Германию едут и дети функционеров. В Германии разразился скандал. Добропорядочные немцы отказывались вкладывать деньги в сомнительное дело. И господину Зауэру стоило немалого труда убеждать своих соотечественников в обратном.***

Но, положа руку на сердце, смеем ли мы утверждать, что многое переменилось к лучшему с тех пор? Эрих Зауэр всегда подчеркивает: я -- не за контроль, а за доверие. И строить его надо снизу, иметь мужество признать ошибки, не компрометировать искренние порывы честных людей.

Горько и стыдно сознавать, что мы сами создаем препоны на пути благородных начинаний. Одно время Эрих Зауэр возил специалистов из Германии, которые безвозмездно искренне хотели помочь нашей республике. Сейчас Аэрофлот как хочет, так и варьирует цены на билеты. Стоимость их так возросла, что не по карману господину Зауэру. Но он никак не может понять, почему стоимость билетов для приглашенных им в Германию наших делегаций ниже, чем для иностранных специалистов. Загадки нашего непредсказуемого характера? Представляю, какое ангельское терпение нужно Эриху Зауэру, чтобы настойчиво стучаться в запертую дверь, доказывать, спорить, убеждать.

Сейчас при поддержке Комитета по делам молодежи республики создан Координационный совет по организации помощи детям, который начал руководить чернобыльским проектом. К нему присоединились Фонд Сороса /США/, Молодежный форум /Европейский совет/ и другие объединения, частные инициативы. Их обращение, которое они настоятельно просили опубликовать, -- ко всем нам.

***СООТЕЧЕСТВЕННИКИ!***

***Все, кому небезразлична судьба многострадального белорусского народа!***

***Восьмой год мы живем со страшной бедой, но время не искупает человеческих страданий, оно лишь множит число своих жертв. Сегодня мы все перед выбором -- быть или не быть.***

***Сделанное для пострадавших детей не может удовлетворить. Уже десятки общественных организаций и фондов в республике и за ее пределами в той или иной степени занимаются оздоровлением детей Чернобыля. Но их усилия распыляются и чаще всего малоэффективны. Они охватывают десятки тысяч, а речь идет о сотнях тысяч пострадавших. Отсутствие единства в помощи жертвам Чернобыля порождает хаос. И что это за помощь и внимание, которые достаются некоторым, а не каждому ребенку?***

***Мы, участники Международного семинара "Чернобыльский проект", представители различных зарубежных фондов и инициатив, призываем поддержать наше предложение по организации оздоровления чернобыльских детей прежде всего на территории Республики Беларусь, не растрачивая валюту на организацию вывоза детей за рубеж.***

***Дети Чернобыля с надеждой ждут нашей помощи.***

***Координационный совет по организации помощи детям, пострадавшим от чернобыльской катастрофы.***

***Адрес Координационного совета: 220030, г. Минск, ул.К.Маркса, 40. Контактные телефоны: 29-30-01, 27-04-95, факс: 29-35-72.***

На этом можно ставить точку. Но Эрих Зауэр не тешит себя иллюзиями. Предстоит долгий, тяжкий, тернистый путь. И свет в конце тоннеля увидеть не так просто.

Подумалось: ну зачем ему, немцу, наши проблемы? Жил бы спокойно в своей Германии и снисходительно раздавал советы, как нам выбраться из болота, в которое мы попали. Но Зауэр смотрит в нашу сторону с тревогой, волнением и любовью. Для Адвоката Детей нет национальных различий, нет границ.

Ирина АНДРЕЕВА.

**НА СНИМКЕ:** Эрих Зауэр.

Фото Анатолия БАСОВА.

## Адкрыты канверт

### ПАДПІШЫЦЕСЯ, НЕ ПАСКУПІЦЕСЯ

Мне здаецца, той, хто чытае "Мінскую праўду", абавязкова выпіша яе і на другое паўгоддзе 1993 г. А як жа інакш?

Я гэтую газету лічу сваёй, бо выпісваю яе ўжо мо трыццаць гадоў. Ды і не толькі чытаю, а і дасылаю ў рэдакцыю заметкі, вершы.

Учора я падпісаўся на "МП" зноў. І заклікаю іншых жыхароў Міншчыны: выпісвайце сваю родную газету. Далібог, не пашкадуеце. Тут і пра абласныя навіны праінфармуюць, і пра многае іншае.

Селькор з Гоцка
Мікола ЕРМАКОВІЧ.
Салігорскі раён.

### БЕЗ ГАЗЫ

Слуцкі райспажыўсаюз ужо больш чатырох месяцаў не завозіць газу для продажу ў магазін вёскі Знамя. Ёмістасць для яе захоўвання пустуе, пакупнікі чакаюць.

Звяртанне ў раённую газету з просьбай дапамагчы вынікаў не дало.

Магчыма, вы выручыце?

А.РОГАЛЬ.

### ГУЧЫЦЬ ЯК ЗДЗЕК

Роспач на душы, месца сабе не знаходжу. Дзе ўзяць словы, каб выказаць усё што набалела?. Якім жа бяздушным трэба быць, каб так раніць старых, бацькоў і дзядоў.!

Слухаеш па радыё пра незалежнасць, гуманнасць. Гучыць як здзек. Няўжо не задумваюцца дыктары над тым, што гавораць? Калі думаюць, дык чаму дазваляюць сабе так хлусіць?

Ну скажыце, каму пры сацыялізме так ужо кепска жылося? Гэтыя ж самыя дыктары ўсхвалялі былое жыццё.

Сёння многія сумленныя людзі ўспамінаюць нядаўнія часы з настальгіяй. Былі памылкі, няўдачы і несправядлівасць. Але ўсё гэта было сваё, роднае. Было куды ісці шукаць праўды. А цяпер?

Герояў вайны, вызваліцеляў абзываюць акупантамі. Глумяцца над магіламі, помнікамі. Праслаўляючы далёкую гісторыю, ачарняем гісторыю ўласных бацькоў і дзядоў. Яны ж ёю ганарыліся і цяпер, нягледзячы ні на што, ганарацца.

А хлусня, узведзеная ў ранг дзяржаўнасці, негатыўна ўздзейнічае на моладзь. Гэта бясследна не пройдзе.

Вось пішу -- і чую па радыё: наш бел-чырвона-белы сцяг не проста прыдуманы. Князь, абараняючы сваё княства, быў цяжка паранены. Зняўшы з сябе акрываўленую кашулю, ён размахваў ёю, заклікаў разбіць ворага.

А тое, што паліцаі, размахваючы такім жа сцягам, забівалі ў час вайны мірных жыхароў Беларусі, дыктар ведаць не жадае.

Як жа быць з тымі мільёнамі, што спяць вечным сном у брацкіх магілах, над якімі свецяцца чырвоныя зоркі?

Ад такой знявагі, здрады, фальшу цяжка на душы.

Т.РЫБАКОВА.
г.Клецк.

**P.S.** ***Мне падабаецца ваша газета тым, што ў ёй можна прачытаць розныя меркаванні.***

***Дарэчы, ганарар пакідаю на патрэбы рэдакцыі.***

■ Спажывецкая кааперацыя

Прадукцыю высокай якасці выпускае Нясвіжскі камбінат кааператыўнай прамысловасці. Гэта мясныя паўвэнджаныя і вараныя вырабы.

Ёсць на прадпрыемстве зімовая цяпліца. Ужо сабрана 9 тон зялёнай цыбулі, высаджана расада памідораў.

**На здымках:** абвальшчыкі мяса Леакадзія **СТАШЫНСКАЯ**, Ганна **МАХАНЬКО,** Генадзь **БАРАУЛЯ**, майстар каўбаснага цэха Мікалай **БАЛТУЦКІ;** рабочая цяпліцы Марыя **ГУЛЬ**.

Фота Анатоля БАСАВА.

## ДРУЖЫННІКІ-ПРАФЕСІЯНАЛЫ

### дапамагаюць наводзіць грамадскі парадак у Салігорску

Іх на стотысячны горад -- усяго 15 чалавек. А мы добра памятаем, што не так даўно такія групы людзей з чырвонымі павязкамі на рукавах кожны вечар выходзілі на патруляванне. Добраахвотныя, так сказаць, энтузіясты навядзення парадку ў горадзе. І яны, безумоўна, дапамагалі работнікам міліцыі, нярэдка толькі сваёй прысутнасцю збівалі імпэт хуліганаў.

Але як толькі ад дружыннікаў забралі дадатковыя тры дні адпачынку, якія ім прадастаўляліся за дзяжурства, людзей з чырвонымі павязкамі на рукавах з нашых вуліц нібы ветрам садзьмула. У актывістаў адразу знік энтузіязм.

-- А без дружыннікаў нам, работнікам міліцыі, дрэнна, -- гаворыць сяржант І.І.Нікановіч, які адказвае за работу ДНД. -- Не толькі таму, што пры сутычках з парушальнікамі парадку лішняя пара дужых рук не пашкодзіць. У выпадку канфлікту нам вельмі патрэбен сведка, чалавек "з боку", якім і з'яўляецца дружыннік.

Сёння дружыннікі за кожную гадзіну дзяжурства атрымліваюць грошы. Не па месцы сваёй работы, а менавіта ў міліцыі. І цяпер Мікалай Сцепаненка з Чацвёртай абагачальнай фабрыкі, Канстанцін Курловіч з ЖКГ "Комплекс", Мікалай Дзялендзік з чыгуначнага цэха "Беларускалія", дэпутат гарсавета Мікалай Сушчыц з домабудаўнічага камбіната, іх таварышы, -- можна сказаць, дружыннікі-прафесіяналы. І да сваіх абавязкаў яны ставяцца больш сур'ёзна, адказна. Напрыклад, работнік трыкатажнага камбіната Валянцін Шыбко даволі прафесійна дзейнічаў пры затрыманні ў рэстаране мужчыны, узброенага пісталетам... Аляксандр Ахрэмчык з завода жалезабетонных канструкцый і Мікалай Гурленя з будаўнічага ўпраўлення №123 хутка справіліся з хуліганам, які спрабаваў зняважыць жанчыну...

Але гэтых дружыннікаў для Салігорска яўна мала. Іх патрэбна мінімум тры дзесяткі чалавек. Каб хаця б адзін з іх быў з міліцэйскім патрулём, якія выходзяць адразу на дзесяць маршрутаў. Але ахвотнікаў мала. Віна тут і кіраўнікоў гарадскіх прадпрыемстваў, арганізацый, якія ўхіліліся ад навядзення парадку ў горадзе. Ніякай работы ў гэтым кірунку ў працоўных калектывах не вядзецца. Ніхто на справе не выконвае і пастанову мясцовых улад аб пералічэнні на рахунак аддзела ўнутраных спраў па паўсотні рублёў у год на кожнага свайго работніка. Адкуль і бяруцца сродкі на аплату працы дружыннікаў... Два мільёны пералічыла толькі фірма "Грэйп". У той жа час ні аднаго рубля не ўнеслі такія гіганты, як "Беларускалій", будтрэст, завод "Універсал"...

Ад кіраўнікоў гэтых прадпрыемстваў можна пачуць: "Не да дружын нам -- вунь колькі іншых, больш важных праблем вырашаць трэба..." Правільна. Але галоўная з іх, -- навядзенне парадку, дысцыпліны ў грамадстве. Менавіта аб гэтым і дбаюць людзі, якія імкнуцца аднавіць дружыны. Ужо ў новай якасці.

Уладзімір БЫЧЭНЯ.

# КУДЫ ІСЦІ ДАЛЕЙ?

**Рэанімаваць старыя парадкі ніхто не хоча. Гэта глупства. Каму хочацца жыць пад каўпаком КДБ, выпрабоўваць лёс у залежнасці ад настрою партакрата ці рабіць усё па ўказцы ўсёмагутнага генсека? Аднак бяда ў тым, што пад маскай дэмакратыі пладзіцца новы слой "партакратаў", пануе ўсёдазволенасць, растуць злачыннасць, безадказнасць і г.д.**

**Як жыць далей, па якім шляху ісці? Вось пытанне, якое хвалюе не толькі палітыкаў і вучоных, але і радавых працаўнікоў. Усіх, хто трывожыцца за будучае нашага народа.**

**Аб сацыялізме гаварыць цяпер небяспечна / адразу прышыюць ярлык чырвона-карычневага/, хаця адным з яго прынцыпаў з"яўляюцца сацыяльная справядлівасць і роўнасць. Што ж у гэтым дрэннага? Менавіта ж аб гэтым марылі многія пакаленні людзей, пачынаючы з эпохі ранняга хрысціянства.**

**Часцей за ўсё позіркі нашы скіроўваюцца на Захад, у бок развітых краін з высокім узроўнем жыцця. Але ж там рынačныя адносіны фарміраваліся многія дзесяцігоддзі. Прычым, кожная краіна ішла сваім шляхам. На жаль, не ўсе дзяржавы з рынкавай эканомікай працвітаюць, а многія з іх у мінулым былі пастаўшчыкамі сыравіны і таннай рабочай сілы для больш моцных. Наўрад ці яны падзеляцца сваімі дасягненнямі: баяцца канкурэнцыі.**

**А праблема сыравіны? Яна становіцца ўсё больш вострай. Дарэчы, праведзеная летам 1992 года ў Бразіліі канферэнцыя ААН па праблемах будучага развіцця цывілізацыі і навакольнага асяроддзя з удзелам амаль 200 кіраўнікоў дзяржаў зрабіла вывад, што мадэль развіцця, выкарыстаная дзесяткам капіталістычных краін свету, вычарпала сябе. Канферэнцыя недвухсэнсава рэкамендавала пазбегнуць разбуральнага першапачатковага накаплення капіталу. Напэўна, гэтыя вывады нельга не ўлічваць. Але чамусьці работа той канферэнцыі вельмі слаба асвятлялася на старонках нашых газет.**

**Дык ці варта нам ісці па шляху першапачатковага накаплення капіталу з яго балячкамі і нягодамі? Ці не лепш шукаць свой шлях рынкавых адносін, выкарыстоўваючы перадавы замежны вопыт, традыцыі і дасягненні свайго народа.**

**Можна колькі хочаш крытыкаваць наш мінулы "недаразвіты" сацыялізм, і ў асноўным гэта будзе правільна, але адхіляць усё поўнасцю наўрад ці будзе разумна. Бо сёе-тое з яго было небеспаспяхова выкарыстана заходнімі краінамі. Чаму ж у нас такая моцная тэндэнцыя разбурэння? Ці некаму выгадна паставіць нас на калені?**

**Як вядома, прэм"ер-міністр Рэспублікі Беларусь В.Ф.Кебіч выказаў ідэю, што наша эканоміка павінна быць сацыялізаванага тыпу, гэта значыць, звернута да чалавека. Жыццё падказвае, што ў сучасных умовах неабходна яшчэ і дзяржаўнае рэгуляванне эканомікі, асабліва ў перыяд пераходу да рынку. Не ўмяшанне ў справы прадпрыемстваў, не размеркаванне кожнага цвіка, а дзелавое рэгуляванне.**

**Я не вучоны і мне не пад сілу рабіць вывады з сённяшніх падзей, але, на маю думку, было б разумна і мэтазгодна правесці адкрытую навуковую дыскусію аб шляхах нашага далейшага развіцця. Прычым, без педагаворак і туманных разважанняў. Няхай бы вучоныя і палітыкі выклалі свой пункт погляду, а народ паслухаў. Пры гэтым ні ў якім разе нельга карыстацца парадай У.Чэрчыля, які гаварыў: "Калі аргументаў не хапае, трэба павышаць голас". А менавіта так нярэдка атрымліваецца, і замест аргументаў, фактаў, доказаў пачынаюць павышаць голас, раздаюцца пагрозы, прыклейваюцца ярлыкі.**

**Словам, дзейнічаюць бальшавіцкія метады, якія мы так сурова асудзілі. І зусім ужо дрэнна, калі адна палітычная партыя патрабуе забароны другой. Цікава, што ў ЗША, куды мы так "утаропліваем" свае вочы, кампартыя не забаранялася нават у гады "макартызму", у самы разгар "халоднай вайны", выходзіла яе газета.**

**На самай справе, што гэта будзе за дэмакратыя, калі знікнуць апазіцыя, плюралізм думак, калі чалавек будзе баяцца адкрыта выказвацца?!**

**Несумненна, настаў час, калі трэба акрэсліць сваю пазіцыю. Усіх нас, увесь беларускі народ хвалюе адно пытанне: куды мы ідзём і што нас чакае? І на яго трэба адказаць аргументавана, пераканаўча. Мы ніколі не падымем народ на ажыццяўленне тых ідэалаў, якія будуць яму незразумелыя і непрымальныя.**

**Вось такі пункт погляду радавога чалавека.**

І.ЛУЦКО,
ветэран вайны і працы.
г.Мінск.

■ Два пісьмы са Случчыны

# І НІ СЛОВА — АБ АДРАДЖЭННІ

*Прачытала зварот удзельнікаў раённага сходу камуністаў да грамадзян Случчыны і чарговы раз пераканалася ў закаснеласці гэтай арганізацыі. Ужо амаль тры гады жывём мы ў суверэннай рэспубліцы, сталі незалежнымі краіны Прыбалтыкі, Азербайджан, а камуністы мрояць аб выратаванні Саюза /трэба думаць -- СССР/. Затое ні слова ў звароце -- пра адраджэнне беларускай дзяржаўнасці, нацыянальнай культуры, мовы, традыцый. Усяго таго, што ствapae аблічча цывілізаванай дэмакратычнай краіны. Быццам і не было выкаранення ўсяго беларускага, нам няма чаго адраджаць.*

*Але такая пазіцыя членаў КПБ-ПКБ цалкам зразумелая. Камуністы іншых рэспублік былі больш літоўцамі, латышамі, эстонцамі, таджыкамі, чым камуністамі. КПБ ж сярод кампартый рэспублік былога Саюза з"яўлялася самай "бязроднай". Калі ў 30-я гады з яе кіраўнікоў расстралялі апошняга беларуса, у ЦК прыйшоў Панамарэнка. Ён пачаў вылучаць на кіраўніцтва пасланцоў з Расіі альбо рускамоўных беларусаў. Такая кадравая палітыка не магла не прывесці да татальнай дэнацыяналізацыі і русіфікацыі.*

*Усіх тых, хто ўсвядоміў, якія страты панесла Беларусь, камуністы называлі і называюць нацыяналістамі. І па- іхняму, нацыяналізм -- гэта варожасць да ўсіх іншых народаў.*

*Але ж, калі зазірнуць у тлумачальны слоўнік, то мы ўбачым там дзве трактоўкі гэтага паняцця:*

*1. Буржуазная палітыка і ідэалогія распальвання нацыянальнай варожасці.*

*2. Рух у паднявольных краінах за нацыянальную незалежнасць.*

*Ці былі мы незалежнымі ў "братняй сям"і народаў" былога Саюза? На жаль, гэта сцвярджаць нельга. Ды аб якой незалежнасці можа быць гаворка, калі без дазволу з цэнтра мы не маглі ні прадаць нічога за мяжу, ні купіць. Ды, можа, яшчэ і зараз мы прадаём сваю прадукцыю праз Маскву. І яна ўстанаўлівае цану на яе. Дык ці можна тых, хто хоча адрадзіць сваю мову і звычаі дзядоў, хто хоча працаваць на сябе і сваю Радзіму, абвінавачваць у распальванні варожасці да іншых народаў?*

*Хутчэй за ўсё, у нас -- рух за нацыянальную незалежнасць. Мо ці не большасць прачытаўшых гэтыя словы падумаюць: якая незалежнасць, калі ўсё горшае жыццё, ды і сыравіны ў нас няма. А гіганты якія: БелаўтаМАЗ, трактарны і іншыя. Але і гэта вынікі каланіяльнай палітыкі: каб прывязаць назаўсёды да сябе калонію, будуюць там перапрацоўчыя заводы, каб у любы момант спыніць паступленне сыравіны, выклікаць крызіс у прамысловасці і аднавіць свой уплыў над непаслухмянымі. І наогул, не заўсёды краіны, якія не маюць карысных выкапняў, жывуць кепска /Японія, Швейцарыя і інш./. Дык чаму ж мы так кепска зараз жывём? Можна сказаць, што гэта з"ява часовая. Мы хутчэй зажывём па-людску тады, калі нашы кіраўнікі ўсвядомяць, што яны не багі і не ў іх сілах ажывіць мярцвяка /былы Саюз/. І трэба спадзявацца не на замежнага дзядзьку, а на свой працавіты, добрасумленны, кемлівы, добразычлівы і цягавіты народ.*

*Тыя, хто абвінавачвае патрыётаў Бацькаўшчыны ў нацыяналізме /гэта значыць, тых, хто душой хварэе за наша нацыянальнае станаўленне/, самі ж выступаюць за наданне рускай мове статуса дзяржаўнай. Але ж узнясенне сваёй нацыі, распальванне варожасці і нянавісці -- гэта і ёсць крайняе праяўленне нацыяналізму альбо шавінізм.*

*На заканчэнне хочацца сказаць: таптанне суверэнітэту, ігнараванне незалежнасці Рэспублікі Беларусь, распальванне варожасці да "нацыяналістаў" -- ненадзейная глеба для аб"яднання, таварышы камуністы.*

Зінаіда ЛІСТРАЦЕНКА,
юрысконсульт.
г.Слуцк.

# ЖЫЦЦЁ КІПЕЛА, І МЫ БЫЛІ ШЧАСЛІВЫЯ

Не разумею, што здарылася з дзецьмі ў нашым мікрараёне. Яшчэ гады два назад двары "гулі". Прахожым іншы раз даставалася: то стукнуць мячом у спіну, то шайбай. А цяпер у нас у двары, скразным, з выхадамі на чатыры вуліцы, -- цішыня. Куды зніклі дзіцячыя гульні? Былі ж у малых мячы, клюшкі.

Наш ЖЭК нямала зрабіў для фізічнага развіцця падрастаючага пакалення. На зіму ўстанаўлівалася дыхтоўная хакейная каробка. Але даглядаць пляцоўку, чысціць снег, заліваць лёд дзеці ленаваліся. Лічылі за лепшае насіцца з клюшкамі па заснежаных асфальтавых дарожках двара, без канькоў. Затым гэтую каробку перанеслі ў больш утульнае месца, на лета яе нават не разбіралі. І таксама -- абыякавасць.

ЖЭК расчысціў адзін захламлены ўчастак двара, дзе рабілі пляцоўку для баскетбола. Але я ні разу не бачыў, каб там мітусілася дзятва.

Немалыя грошы былі затрачаны на ўстаноўку розных металічных канструкцый. Якія багатыя магчымасці развіць сілу, спрыт, смеласць. І арэлі тут жа, побач. Але што толку? Усе гэтыя "прынады" мала каго прывабілі. Канструкцыі ржавеюць, некаторыя з іх зламалі.

Дык чым жа займаецца цяперашняе пакаленне дзяцей? Можа, сядзяць ля тэлевізараў, упіваюцца парнаграфіяй амерыканскай і французскай кінавытворчасці, якой праз меру нашпігоўваюць нас і Масква, і Мінск.

Затое ажывае наш двор раніцай -- ад сабачага брэху. Пачаўся выгул "братоў нашых меншых".

Дзіву даешся, як моцна гэтая эпідэмія ахапіла жыхароў гарадоў. Ва ўсіх дамах, у кожным пад"ездзе па некалькі сабак, а ў асобных кватэрах -- па два-тры. Гэта ў такі цяжкі час!

Дзецям няма калі гуляць, нават рабіць урокі: ім даводзіцца выгульваць велічэзных аўчарак, баксёраў, колі і іншых прадстаўнікоў сабачага свету. Ужо і не ведаю, як ужываюцца разам у "цесных трушчобах" старых дамоў людзі і сабакі.

А "сабачых пастушкоў" мне шчыра шкада. Раней дзеці знаходзілі больш карысныя справы. Помніцца, у шасцідзесятых гадах у двары дома пабудавалі гімнастычны гарадок. Дзеці з усёй вуліцы Леніна цэлымі днямі прападалі тут. Потым ім, як і мне самому, лягчэй было служыць у арміі, бо мы былі моцныя фізічна, вынослівыя і дастаткова спрытныя.

Жыццё кіпела, і мы былі шчаслівыя.

А.БАЛАТЭВІЧ.
г.Слуцк.

■ Конкурсы

# У РЭПЕРТУАРЫ—ФАЛЬКЛОР

**Штогод праходзіць абласны агляд-конкурс на лепшы калектыў мастацкай самадзейнасці работнікаў спажывецкай кааперацыі. Сёлета ў ім прынялі ўдзел больш як 600 чалавек. Дарэчы, ва ўсіх райспажыўсаюзах і райспажыўтаварыствах створаны калектывы мастацкай самадзейнасці. Многія з іх добра касцюміраваны. Кіруюць гурткамі, ансамблямі кваліфікаваныя кадры.**

Актыўны ўдзел у мастацкай самадзейнасці прымаюць старшыні прафсаюзных камітэтаў, кіраўнікі, спецыялісты працоўных калектываў і члены іх сем"яў.

У рэпертуары -- творы беларускіх кампазітараў, народны фальклор. З году ў год расце майстэрства ўдзельнікаў мастацкай самадзейнасці, паляпшаецца сцэнічная культура, якасць музычнага суправаджэння.

Пераможцамі гэтага агляду-конкурсу прызнаны калектывы мастацкай самадзейнасці Дзяржынскага райспажыўсаюза /старшыня праўлення А.В.Якімава, старшыня прафсаюзнага камітэта В.В.Давыдзенка, мастацкі кіраўнік калектыву Віктар Кунцэвіч/, Старадарожскага райспажыўтаварыства /старшыня праўлення райспажыўтаварыства В.П.Гайдай, старшыня прафсаюзнага камітэта М.П.Корзун, мастацкі кіраўнік калектыву Вячаслаў Кісялёў/. Гэтым калектывам прысуджаны дыпломы першай ступені і грашовыя прэміі.

Дыпломаў другой ступені ўдастоены калектывы мастацкай самадзейнасці Лагойскага, Клецкага, Мядзельскага, Крупскага райспажыўсаюзаў.

Дыпломы трэцяй ступені ўручаны калектывам мастацкай самадзейнасці Любанскага, Нясвіжскага, Мінскага райспажыўсаюзаў.

Сярод выканаўцаў дыпломы першай ступені прысуджаны:
вакальна-інструментальным ансамблям Валожынскага райспажыўсаюза і Старадарожскага райспажыўтаварыства, ансамблю народнай песні Крупскага райспажыўсаюза; жаночым вакальным групам Дзяржынскага, Лагойскага, Клецкага райспажыўсаюзаў і Старадарожскага райспажыўтаварыства; мужчынскім вакальным групам Старадарожскага райспажыўтаварыства і Нарачанскага курорткаапа; трыо Стаўбцоўскага райспажыўсаюза ў складзе Святланы Клянцовай, Зоі Кулеш і Тамары Кулік; дуэту Крупскага райспажыўсаюза ў складзе Алены Сманцар і Марыны Аўчыннікавай; салістцы Старадарожскага райспажыўтаварыства Галіне Шумскай; салісту Дзяржынскага райспажыўсаюза Уладзіміру Коліну; танцоўшчыцы Нясвіжскага райспажыўсаюза Наталлі Сідарэні; піяністцы Мінскага райспажыўсаюза Ірыне Елістратавай; чытальніку Мядзельскага райспажыўсаюза Івану Мяховічу і іншым. Многія ўдзельнікі абласнога агляду-конкурсу ўзнагароджаны дыпломамі другой і трэцяй ступеней. Усяго заахвочана больш як 120 удзельнікаў агляду-конкурсу.

Дыпломы першай ступені з грашовай прэміяй прысуджаны мастацкім кіраўнікам калектываў Дзяржынскага райспажыўсаюза Віктару Кунцэвічу, Мядзельскага райспажыўсаюза Аляксандру Трафімовічу, Старадарожскага райспажыўтаварыства Вячаславу Кісялёву, музычнаму кіраўніку Крупскага райспажыўсаюза Надзеі Дзенісенка.

За вялікую дапамогу ў падрыхтоўцы калектываў мастацкай самадзейнасці да агляду і асабісты актыўны ўдзел у мастацкай самадзейнасці заахвочаны грашовымі прэміямі старшыні прафсаюзных камітэтаў, намеснікі старшынь праўленняў па кадрах, інструктары аргмасавай работы Дзяржынскага, Барысаўскага, Валожынскага, Клецкага, Крупскага, Лагойскага, Любанскага, Мінскага, Мядзельскага, Нясвіжскага, Стаўбцоўскага райспажыўсаюзаў, Бярэзінскага, Старадарожскага райспажыўтаварыстваў і Нарачанскага курорткаапа.

На працягу 20 гадоў узначальвае і ўмела накіроўвае работу журы нашых абласных аглядаў-конкурсаў заслужаны работнік культуры Рэспублікі Беларусь Зіновій Аронавіч Танклеўскі. Ён заўсёды аказвае кваліфікаваную дапамогу калектывам мастацкай самадзейнасці, клапоціцца аб павышэнні ўзроўню іх майстэрства.

Валянцін ЛЯХ,
начальнік аддзела
аргмасавай работы
аблспажыўсаюза.

## МУЗЕЙ ЛІТАРАТАРАЎ

**Багатая Салігоршчына літаратурнымі талентамі. Тут нарадзіліся пісьменнікі Максім Лужанін, Аляксей Кулакоўскі, Іван Кудраўцаў, Аркадзь Чарнышэвіч, Рыгор Шкраба, Анатоль Дзялендзік, Валянціна Аколава і інш. Пра жыццё і творчасць кожнага з іх вам раскажуць у літаратурным музеі Чырвонаслабодскай сярэдняй школы, які нядаўна прыняў сваіх першых наведвальнікаў. Музей гэты створаны па ініцыятыве выкладчыка беларускай мовы і літаратуры М.А.Андрыенкі.**

**У экспазіцыі, як зазначае газета "Салігорскі веснік", прадстаўлена творчасць і сённяшніх маладых літаратараў Хведара Гурыновіча, Міколы Лойкі і іншых.**

Уладзімір КОБРЫН.

■ Шыварат-навыварат

# ПАМЯНЯЛІ БЫКА НА... ПАПЕРКУ

Не думалі, не гадалі некаторыя жыхары гарадскога пасёлка Урэчча Любанскага раёна, што ад іх каровак, свіней, бычкоў і следу не застанецца. Гадавалі іх, клапаціліся, каб здаровенькія былі, у вазе прыбывалі, і раптам... Не, ніякая віхура не наляцела на гарадскі пасёлак, і эпідэмія абышла гэты населены пункт бокам. Проста ў 1990 годзе сюды прыехалі людзі з мінскага кааператыва "Арыенцір" і прапанавалі мясцовым жыхарам: "Вы нам здасце выгадаваную жывёлу, а мы вам за гэта адпаведна заплацім". Тыя памаракавалі і вырашылі: "А чаму б не здаць... Клапаціцца, везці яе кудысьці. А тут нарыхтоўшчыкі самі з"явіліся". І павялі яны бычкоў, кароў, свіней на здачу прыезджым кааператарам. Тыя ўзамен выдалі ім даведкі. Маўляў, грошы выплацім потым -- пачакайце крыху. Людзі чакалі месяц, другі... паўгода. І сталі, зразумела, турбавацца: чаму грошы не высылаюцца? Пачалі цікавіцца, што гэта за кааператыў такі -- "Арыенцір" і куды ён свае лыжы навастрыў, калі столькі часу затрымлівае выплату. Аказалася: такі кааператыў існаваў на самай справе. Зарэгістраваны быў у Партызанскім раёне г.Мінска і прыпісаны да гаркаапгандлю. Узначальваў яго нехта Осіпкаў. А чаму гаворка пра названы кааператыў ідзе ў мінулым часе -- дык "Арыенціра" сёння ўжо няма.

Праўда, пра гэта жыхары Урэчча даведаліся пазней. А напачатку яны сталі звяртацца ў адпаведныя юрыдычныя інстанцыі, каб тыя дапамаглі ім атрымаць свае законныя грошы. І тут высветлілася наступнае. Працытую адказ, які даслала пракуратура рэспублікі: "Даўгі кааператыва перад крэдыторамі склалі 1 млн.607 тыс.рублёў. З іх дзяржаве завінаваціліся 1 млн.239 тыс.рублёў і грамадзянам -- 127 тыс.486 рублёў. Ліквідацыйнай камісіяй пры выканкоме Партызанскага раёна г.Мінска наяўная маёмасць кааператыва, прызначаная для рэалізацыі, ацэнена на суму прыкладна 200 тыс.рублёў. У адпаведнасці з існуючым заканадаўствам у першую чаргу пры ліквідацыі прадпрыемства ліквідуюцца яго даўгі перад дзяржавай. Разам з тым, пракуратура звярнулася да Міністэрства фінансаў рэспублікі з просьбай у парадку выключэння правесці разлік са здатчыкамі жывёлы, якія аказаліся падманутымі кааператывам".

Людзі крыху супакоіліся. Аднак грошы ім па-ранейшаму ніхто не выплачваў. Пачалі зноў пісаць у рэспубліканскую пракуратуру, тая спусціла скаргі ў гарадскую. 30 студзеня 1991 года адбыўся суд у Цэнтральным раёне г.Мінска. Кааператыў, вядома, абавязалі выплаціць грошы, якія яны завінаваціліся здатчыкам жывёлы. Але яны нічога да гэтага часу не атрымалі.

А што з хадайніцтвам рэспубліканскай пракуратуры перад Міністэрствам фінансаў? Адказ, зразумела, быў атрыманы. А ў ім паведамляецца, што Міністэрства фінансаў не стала рабіць ніякага выключэння з агульнага правіла: спачатку аддай доўг дзяржаве, а потым ужо людзям.

Варта паразважаць над такім паваротам справы. У тым сэнсе, што дзеючае цяпер заканадаўства ставіць чалавека на задні план. А памятаеце, як яшчэ нядаўна любілі гаварыць з высокіх трыбун: "Дзяржава -- гэта мы". Што ж атрымліваецца на справе: дзяржава -- адно, а людзі, якія жывуць у той жа дзяржаве, -- зусім іншае?

Разумею, адным махам закон не пішацца. Патрэбен і час, і талковыя вучоныя, і на чужым вопыце, відаць, варта павучыцца. Але як усё гэта растлумачыць людзям, што працавалі-клапаціліся, гадуючы жывёлу. Разлічвалі нейкую капейчыну займець. А выйшла, як у той прымаўцы: памянялі быка на... паперку. З пячаткай, напэўна. Але не купіш за яе нават запалак. Людзі падазрона пачалі глядзець цяпер на кааператывы і прадпрымальніцтва наогул. Маўляў, навучыліся ўжо. Ідуць туды розныя жулікі, а потым нас падманваюць. Як іх пераканаць, што і сярод прадпрымальнікаў многа талковых, дбайных людзей? Мяркую, перш-наперш патрэбна заканадаўства, якое б абараняла простага працаўніка ад розных махляроў. Тады, упэўнены, і дзяржаве была б карысць, і людзі сваімі скаргамі не турбавалі б праваахоўныя органы.

Леанід КУРБЫКА,
дэпутат
абласнога Савета
народных дэпутатаў.

■ АПК і рынак

# КАПЫЛЬСКАЯ СВІНІНА

## Вопыт міжгаспадарчага прадпрыемства

**Свінагадоўчыя комплексы калгасаў і саўгасаў вобласці ўжо ў пачатку мінулага года сутыкнуліся з вострай праблемай -- нястачай кармоў. Раней баланс іх фуражу істотна папаўняўся камбікармамі з дзяржаўных рэсурсаў. За мінулы ж год пастаўка канцэнтратаў скарацілася амаль удвая.**

**Бяскорміца чакала і комплекс акцыянернага міжгаспадарчага прадпрыемства па вытворчасці свініны "Капыльскае". Аднак закончыўся год, і гэтая "фабрыка мяса", разлічаная на адкорм 24 тысяч свіней, па-гаспадарску выкарыстаўшы вытворчыя плошчы, змагла адправіць на мясакамбінаты 27 тысяч галоў жывёлы. Калектыў за год атрымаў 72 мільёны рублёў чыстага прыбытку пры рэнтабельнасці вытворчасці 33 працэнты. /Праўда, годам раней гэты паказчык быў амаль напалавіну вышэйшы/.**

Словам, усё атрымалася так, быццам няма эканамічнай неразбярыхі і вытворчасць не закранаюць рыначныя віхуры. Узнікла пытанне: на якую ж "залатую жылу" /гаворка ідзе пра кармы/ натрапілі капыляне?

Уся справа, аказваецца, у тым, што кіравацца ў рынак яны вырашылі не паасобку, як настойліва вучыць сёй-той селяніна, а менавіта разам. Калі хочаце -- цэлым раёнам.

Каб было больш зразумела, бадай, варта некалькі слоў сказаць пра гісторыю прадпрыемства. Пабудавана яно шаснаццаць гадоў назад на сродкі дзяржавы, часткова на сродкі калгасаў і саўгасаў раёна. Тады, ды і пазней, комплексы амаль поўнасцю забяспечваліся кармамі з грамадскіх засекаў. Таму ў калектыве ў сяготага ўзнікла думка, ці не "адгарадзіцца" ад калгасаў і саўгасаў, не адпісваць ім мяса і жыць самастойна... Кіраўнікі гаспадарак на такі крок, вядома, не згадзіліся.

А вось два гады назад, калі ў сувязі з паваротам да рынку дзяржаўныя засекі пачалі прыкметна бяднець на фураж, новае кіраўніцтва прадпрыемства заканамерна ўбачыла шлях вырашэння кармавой праблемы менавіта ў цесным супрацоўніцтве з калгасамі і саўгасамі раёна. Не марудзячы, разам селі за стол і дамовіліся: практычна ўсе гаспадаркі раёна становяцца акцыянерамі прадпрыемства са сваімі долямі статутнага капіталу. Дамовіліся таксама, што збожжа гаспадаркі будуць не проста аддаваць прадпрыемству пад прадукцыю, якая потым будзе адпісана. Кіраўнікі калгасаў і саўгасаў згадзіліся прадаваць яго. Прытым, на самых выгадных умовах.

-- Напрыклад, збожжафураж, які пастаўляўся мінулай восенню, -- расказвае дырэктар прадпрыемства У.М.Луцкі, -- быў аплачаны на 10 працэнтаў даражэй, чым плаціла за яго дзяржава. А вясной, калі зерне зрасходавалі і рэалізавалі прадукцыю, за яго заплацілі яшчэ амаль такую ж суму.

-- Двайная аплата? Ці не занадта? Вы ж, пэўна, у нечым істотна ўшчамілі сябе? -- пацікавіўся я.

-- Ды не, -- адказаў Уладзімір Міхайлавіч. -- Справа ў тым, што мінулай восенню за кілаграм збожжа дзяржава плаціла гаспадаркам у сярэднім 10 рублёў, а зімой, у сувязі з інфляцыяй, цэны на зерне патроіліся. Мы не лічым патрэбным узбагачацца за кошт добрапрыстойнасці нашых суседзяў. Прадаўшы нам сваё збожжа, яны аказалі прадпрыемству неацэнную паслугу. Такіх партнёраў нельга падводзіць ні ў якім разе. Таму мы і падзяліліся вясной тымі прыбыткамі, якія атрымалі дзякуючы іх збожжу.

Калі закончыўся год і былі, як кажуць, падбіты бабкі, акцыянеры сабраліся на сход. Так, восенню гаспадаркі прадалі прадпрыемству 11 тысяч тон збожжа. Праўда, для больш-менш нармальнага кармлення пагалоўя яго патрэбна было 20 тысяч тон. Аднак, згадзіцеся, падтрымка, якую аказалі прадпрыемству гаспадаркі-акцыянеры, вельмі істотная.

-- Астатняе дакуплялі ў камерцыйных структурах, -- працягвае Уладзімір Міхайлавіч. -- Каля паўтары тысячы тон атрымалі па фондах.

Як жа распарадзіліся прыбыткам? Гаспадаркам-акцыянерам пералічана 94 мільёны рублёў у выглядзе даплат за фураж, а таксама дывідэндаў, якія прыпадаюць на паі. Праўда, большая частка -- 95 працэнтаў прыбытку -- пайшла ўсё ж на аплату кармоў. І гэта зразумела: яны -- асноўная ўмова паспяховай работы прадпрыемства, занятасці калектыву. Дывідэнды пакуль невысокія -- 5 працэнтаў ад кошту акцый, якімі распараджаюцца гаспадаркі. Тым не менш, калгасы "Пралетарый", "Праца", імя Войкава, "Інтэрнацыянал", імя Ульянава, саўгас "Доктаравічы" атрымалі па 5--7 мільёнаў рублёў, а калгас імя Ціміразева паклаў на свой рахунак 11 мільёнаў. Толькі даплаты, якія атрыманы ў выніку індэксацыі цэн на збожжа, склалі ў гэтых сумах па 4--6 мільёнаў рублёў.

...Спакойна, у звычайным рытме працуе калектыў прадпрыемства ў гэтыя дні. Кожны выконвае сваю работу, а дырэктар і спецыялісты заглядваюць у заўтрашні дзень. Прыемна, што гаспадаркі-акцыянеры не менш, чым яны, прадстаўнікі прадпрыемства, зацікаўлены ў паспяховых выніках работы комплексу. Ужо заключаны дагаворы на закуп 9 тысяч тон збожжа новага ўраджаю. І ёсць меркаванні, што продажам гэтай колькасці фуражу калгасы і саўгасы не абмяжуюцца. Вось толькі б лета не падвяло хлебаробаў.

А камбікорму і на наступны год спатрэбіцца не менш як 20 тысяч тон, бо істотна скарачаць пагалоўе не плануецца -- патрэбы няма. Хаця варта заўважыць: на прадпрыемстве ідзе рэканструкцыя -- мяняецца ўстарэлае тэхналагічнае абсталяванне, праводзіцца глыбокая дэзінфекцыя памяшканняў. Таму тысячы са дзве жывёламесц давядзецца пакінуць незанятымі. Але спецыялісты мяркуюць, што за кошт лепшага догляду астатніх свіней леташні аб"ём вытворчасці мяса можна будзе захаваць.

Хвалюе іншае: кілаграм камбікорму абыходзіцца ўжо ў 67 рублёў, і яго цана з кожным месяцам павялічваецца. У выніку, калі ў 1991 годзе кошт кармоў у сабекошце цэнтнера свініны складаў 73, а зарплата -- 11 працэнтаў, то летась кошт кармоў перавысіў 80 працэнтаў, а ўдзельная вага зарплаты ўпала да 5,8 працэнта. І прычыны, якія ўплываюць на змяненне гэтых паказчыкаў, знаходзяцца не на прадпрыемстве і нават не ў межах раёна: "нажніцы цэн" на прамысловую і сельскагаспадарчую прадукцыю працуюць не на карысць селяніна.

І яшчэ. Сёння мясакамбінаты вінаватыя прадпрыемству ні многа ні мала -- 100 мільёнаў рублёў. Але ж кожнаму вядома, што ў красавіку гэтыя грошы мелі адну вартасць, а ў маі будуць мець іншую -- на чвэрць, а то і больш, ніжэйшую. І вось пытанне: сяляне Капыльшчыны знайшлі ўзаемаразуменне, каб чэсна, па-гаспадарску працаваць у рыначных умовах. Ці хутка знойдуць яго тыя, хто сядзіць у высокіх дзяржаўных крэслах і вызначае эканамічную палітыку?

Іван АБАБУРКА.

■ Прошу слова

# Неустроенность корежит душу

Деревня без нужды не живет. Теперь -- тем более: село заброшено, его забыли. О нем говорят и пишут только в связи с нехваткой продуктов питания. А о том, что в селах живет пятая часть населения республики и что это такие же люди, как и в городах, и что их потребности такие же, забывают. Сельские жители живут как бы на другой планете.

Село оказалось в таком положении, что крестьянину переложить печь нечем -- нет кирпича, перекрыть крышу -- нет шифера, подвести под дом фундамент -- нет цемента, побелить комнаты -- нет извести, сделать дорогу -- нет асфальта. Ничего нет. А как жить? Ведь в городе все это есть.

Я сомневаюсь, что при таком отношении к деревне там улучшится обстановка. И вот почему. Чтобы ввести в строй хозяйственным способом двадцать квартир в год, будь то в колхозе или совхозе, каждому хозяйству требуется минимум 3 тысячи кубометров пиломатериалов, 4 тысячи листов шифера, 30 тысяч штук кирпича, 5 тонн гвоздей, 100 тонн цемента, 60 тонн гипса, 30 тонн извести, 2 километра электропроводки и многое другое. Но, кроме жилья, в каждом хозяйстве ежегодно ведется строительство животноводческих ферм, объектов соцкультбыта, хранения продукции. Да еще капремонт объектов.

Обеспеченность же материалами составляет лишь только по жилью треть. Можно ли при таком обеспечении говорить об обновлении села? Ответ один -- нет. Деревня была и продолжает оставаться на правах захолустной провинции в государстве с минимальной перспективой перестройки.

Между тем, нужны немедленные, практические действия по всем направлениям и на всех уровнях управления отраслей. Где взять материальные средства? На мой взгляд, необходимо организовать кооперативы по производству стройматериалов, кооперативные заводы, цеха, мастерские по производству гвоздей, электродов, кирпича, шифера, извести, рубероида, гипса, цемента, конструкций сборного железобетона, ДВП и ДСП, шлакогипсоблоков.

Опыт многих десятилетий показывает, что надеяться на госфонды и ждать поставок -- значит топтаться на месте, с горем пополам восполняя лишь списанное и ветхое. Агропромышленный комплекс не может двигаться вперед, не создав свою базу стройиндустрии для хозспособа, свои заводы по производству стройматериалов, не перейдя на индустриальное строительство.

Не ждать, что государство даст и выделит по фондам, а самим производить. Почему бы, к примеру, не иметь станки для производства гвоздей и цеха в каждом районе или на несколько соседних районов? Или, скажем, иметь в каждом районе асфальтовый завод?

Много у нас принимается мудрых решений, но они так и остаются на бумаге. Кто виновен в этом, неизвестно. Теряем годы надежд, а дела нет. Надо улучшать сельские дороги, особенно в глубинке, подъездные пути к фермам, магазинам, клубам, школам, потому что грязь обложила деревню. Она на ферме, на улице, в поле. Несправедливость бытия корежит душу, гонит селянина хоть куда. И никакие говорения, писания не могут остановить покидающих села людей, пока материальные условия там не будут улучшаться, пока на деревню не снизойдет социальная справедливость. Иначе, обкрадывая сельских жителей, мы никогда не сможем жить по совести.

В кооперацию могут войти хозяйства одного района или нескольких соседних. Необходимо определить зоны, сырьевые базы, кадры, оснастить предприятия станками, оборудованием, машинами за счет агропрома.

Силы для такого решения есть. И главная из них, без сомнения, -- страстное желание крестьян, всех жителей сел и руководителей колхозов, совхозов вывести деревню из захолустного состояния, перестроить быт крестьянина.

Все -- за. А кто против?

Виталий МАЛИНОВСКИЙ.

# У ПАЛАЧАНАХ НЯМА ДАМАСЕДАЎ

-- З кожным тыднем пагаршаецца эканамічнае становішча вяскоўцаў. Дарогі, каб можна было выбрацца з галечы, ніхто канкрэтна назваць не можа. Куды ні кінь -- усюды сляды абсурду. А ўсё ж, калі надыходзіць вечар, хлебаробы спяшаюцца ў свой клуб. Тут яны забываюцца пра свае беды, -- з такіх слоў пачалася гутарка з дырэктарам Палачанскага сельскага Дома культуры М.М.Стулінскім.

Дарэчы, гэтая ўстанова - адна з лепшых у Маладзечанскім раёне. Тут часта праходзяць конкурсы самадзейных калектываў і артыстаў на лепшае выкананне беларускіх песень, святы беларускага фальклору, эстраднай музыкі і песні. Праводзяцца беларускія абрадавыя ўрачыстасці.

-- Пераканаены, што няма нядатных людзей. Кожны са сваім непаўторным дарам. Толькі трэба дакапацца да яго, дапамагчы раскрыцца, -- працягвае Міхаіл Міхайлавіч.

І я веру яму. Люблю прысутнічаць на спектаклях аматарскага тэатра "Званцы", які створаны пры гэтай установе культуры. Дарэчы, сёлета на раённым аглядзе драматычных калектываў ён стаў лаўрэатам. Вясковыя артысты паказалі спектакль Я.Харытонава "Дзынь", у якім добра ўгадваюцца сённяшнія нялёгкія дні. Цікавыя вобразы стварылі Людміла Фалей, Марына Гоман, Святлана Гальчэня, Іван Сабалеўскі, Сяргей Пякарскі, Юрый Шыдлоўскі. Спадабаліся хлебаробам гумарыстычныя мініяцюры на злабадзённыя тэмы "Сваццproperties XXI стагоддзя", "Цырульня", "Ля фантана", пастаўленыя на сцэне ўдзельнікамі мастацкай самадзейнасці. У планах -- работа над спектаклем "Другое жыццё" па п"есе Я.Главацкага "Мурза" пра калонію для непаўналетніх дзяўчынак.

Нядаўна палачанцы запрасілі да сябе на вячоркі ўдзельнікаў самадзейнасці з вёсак Зоранька, Літва і Вялікае Сяло. На сцэне адбыўся цэлы спектакль, які, як адзначыла раённая газета, таленавіта правяла гасцінная гаспадыня Людміла Рыгораўна Фалей. Ролю госці вельмі натуральна сыграла Яніна Сцяпанаўна Пякарская. Сцэнарый вечара напісаў інжынер мясцовага калгаса Яўген Міхайлавіч Вяжэвіч.

Ды ці толькі ў той вечар не адпускалі са сцэны задаволеныя гледачы сваіх артыстаў. Гэты канцэрт сагрэў іх душы, вярнуў ім цудоўны настрой, якога цяпер так не хапае нашым людзям. Адным словам, у Палачанах няма дамаседаў -- іх заўсёды вабіць Дом культуры.

Іван ПЯТКЕВІЧ.

■ Міжнародны дзень абароны дзяцей

# НАЙВЯЛІКШЫ СКАРБ ЧАЛАВЕЦТВА

*Перад табой, шаноўны чытач, тры фотаздымкі, тры непаўторныя старонкі з цудоўнай кнігі "Дзяцінства". Яна пакуль не створана. І наўрад ці народзіцца талент, якому будзе пад сілу праца, каб напісаць пра кожнае дзіця, бо толькі у нашай рэспубліцы 3 мільёны 72 тысячы хлопчыкаў і дзяўчынак. Гэта наш найвялікшы скарб, аб якім патрэбна клапаціцца, асабліва цяпер, калі пагаршаецца жыццё нашых людзей, калі жорны рынку раструшчылі ўсё тое, што было створана за мінулыя дзесяцігоддзі. Зачыняюцца дзіцячыя садкі, музычныя школы, бібліятэкі, перастаюць працаваць калектывы самадзейнасці, у якіх дзеці далучаліся да мастацтва. Яшчэ зусім нядаўна на ўсю рэспубліку "грымеў" добрай славай узорны тэатр лялек Дома культуры будаўнічага трэста № 1 г.Мінска. Больш за 30 гадоў працавала ўстанова, дзе хлопчыкі і дзяўчынкі праводзілі вольны час. Куды цяпер падацца юным артыстам? Справа ў тым, што гэты тэатр, не вытрымаўшы рыначных кухталёў, сканаў. Дарэчы, у сталіцы нашай рэспублікі спынілі сваю дзейнасць клубы вытворчага аб"яднання імя Кірава, гадзіннікавага, маторнага, эксперыментальна-фурнітурнага і іншых прадпрыемстваў. Штосьці падобнае наглядаецца і ў раёнах вобласці. Сэрца абліваецца крывёю, калі бачыш, як у пакоях, дзе спявалі і танцавалі дзеці, цяпер гаспадараць малойцы ў скураных куртках з кааператыўных структур. Хочацца крыкнуць: "Ці туды ідзём?" Мы ж яшчэ нядаўна паэтычна называлі дзяцей кветкамі жыцця. І ў гэтым не было перабольшання, бо дзеці -- наша будучыня. Была, ёсць і будзе, якія б цунамі бязглуздзіц не накочваліся на нас.*

*Сучасныя календары скупыя на святочныя даты. На сённяшнім лістку пазначана: "Міжнародны дзень абароны дзяцей". Няхай жа ён стане пачаткам добрых спраў, добрых клопатаў аб тых, хто прыйдзе нам на змену. Няхай ні адна слязінка не пакоціцца па дзіцячым тварыку.*

Уладзімір КОБРЫН.







Фота Уладзіміра Шаракова, Яўгена Пясецкага, Віктара Ставера.

# ШАПЭН на сельскай вуліцы...

Дваццаць хлопчыкаў і дзяўчынак з вёскі Лоск Валожынскага раёна наведваюць музычную студыю, якая працуе пры мясцовай няпоўнай сярэдняй школе. Фінансаванне гэтай студыі поўнасцю ўзяў на сябе аднайменны калгас, старшынёй праўлення якога -- М.В.Ягоўдзік.

-- Задача студыі не ў тым, каб рыхтаваць прафесійных музыкантаў. Важна, каб тут фарміравалася асоба будучага працаўніка вёскі, каб ён выхоўваў у сабе высокі мастацкі густ, -- зазначыў кіраўнік гаспадаркі.

Заняткі з юнымі студыйцамі праводзіць выкладчык Беразінскай дзіцячай музычнай школы Ірына Уладзіміраўна Бягун.

Няма сумнення, што хутка ансамбль юных баяністаў парадуе хлебаробаў сваёй цудоўнай музыкай. Творы класікаў, сучасных кампазітараў падуладныя ўдзельніцам студыі Вользе Кананові, Таццяне Вайцюлевіч і іншым.

Дарэчы, вучні Лоскай няпоўнай школы пастаянна займаюць першыя месцы на раённых аглядах мастацкай самадзейнасці.

Уладзімір АНТОНАЎ.

# ЗЕМЛЯ, ЧАСТНАЯ СОБСТВЕННОСТЬ И ГОСУДАРСТВО

## Из практики стран Запада

В обыденной жизни словом "собственность" мы привыкли обозначать какие-то материальные предметы -- телевизор, машину, дом. В юридическом же смысле "собственность" -- это комплекс прав, а сами вещи являются только объектами этих прав. Понятия "государственная" или "частная" собственность указывают, кому принадлежат права собственности. Частная собственность в западном понимании предполагает, что правами собственности по отношению к какому-либо объекту пользуется определенное лицо, либо группа лиц. Традиционным и одним из наиболее важных объектов частной собственности на Западе была земля.

К правам земельного собственника, закрепленным конституционно, относят: право владения и пользования: право распоряжения (то есть залога, сдачи в аренду, продажи, дарения, завещания); право неиспользования любого из названных прав (оно подразумевает, что права -- это не обязанности, и собственник реализует их добровольно).

В то же время земля является общественным богатством и в определенном смысле принадлежит всему обществу. В связи с этим, по западному законодательству, право частной собственности на землю не абсолютно, оно сопряжено с правами общества (в лице государства) и реализуется с учетом ограничений, накладываемых обществом. К фундаментальным правам государства по отношению к земле, находящейся в частной собственности, относят: право налогообложения; право отчуждения земли на общественные цели с компенсацией собственнику; право осуществлять охрану общественного порядка, т.е. регулировать использование земли с учетом "интересов безопасности, здоровья, морального состояния общества"; право перевода в собственность государства выморочной земли (земли умершего собственника, не имеющего наследников, либо неустановленного собственника).

В последние десятилетия земельное законодательство зарубежных стран развивалось под воздействием урбанизации, экологических и демографических проблем. Это привело к заметному расширению прав общества по контролю над использованием земельных ресурсов, а соответственно -- к определенному ограничению прав земельных собственников. Из фундаментальных прав государства вырастали более частные, специфические законы, регламенты, устанавливающие приоритет интересов общества над интересом частного собственника.

От 50 до 80 процентов всех земель в США и странах Западной Европы приходится на сельскохозяйственные угодья. Подавляющая часть (80--90 процентов) сельскохозяйственных земель находится в частной собственности (индивидуальной либо юридических лиц). Так, в США индивидуальные составляют 87 проц. общего числа земельных собственников, и на их долю приходится около 70 проц. земель.

Сельскохозяйственное производство ведет лишь часть земельных собственников. В США, например, из 2,9 млн. собственников им занимаются 1,6 млн., владея 60 проц. земель. В последние десятилетия во всех развитых странах возрастает число незанятых или частично занятых в сельском хозяйстве землевладельцев. В такой ситуации важное значение приобретает вопрос о путях и условиях перераспределения земель. Традиционно он решается через смену собственника (куплю-продажу, наследование, дарение), либо через аренду земель.

Практика свидетельствует: земельный рынок в развитых странах весьма ограничен. Доля земель, меняющих своего собственника (через куплю-продажу, наследование, дарение), измеряется несколькими процентами в год. Так, в США, Ирландии в начале 80-х гг. она составляла около 3 проц., в Великобритании, Франции, Италии -- порядка 2; в Западной Германии, Голландии, Бельгии -- 1,5; в Дании -- около 4 проц.

Узость земельного рынка обусловлена многими причинами. Большинство собственников предпочитают не расставаться с землей, рассматривая ее как самовозрастающий капитал. Ведь цены на землю в основном повышаются. В США, например, за последние пять десятилетий они росли очень высокими темпами, почти всегда обгоняя темпы инфляции. Купля-продажа сильно ограничена и естественными свойствами земли как товара -- ее местоположением, размерами, качеством.

Ограниченность сельскохозяйственного земельного рынка осложняет расширение производства и перераспределение земельных ресурсов. Эффективной хозяйственно-правовой формой решения этих проблем в развитых странах традиционно была земельная аренда. Аренда земли зачастую может быть более выгодна, чем ее покупка, и с финансовой точки зрения. Покупка, например, предусматривает значительные капиталовложения и, как правило, требует крупного займа. В 80-е гг. из всех земель, вовлеченных в сельскохозяйственное производство, доля арендованных составляла 15 проц. -- в Дании, 20 -- в Италии, около 40 -- в США, Великобритании и Нидерландах, 50 -- во Франции и 70 проц. -- в Бельгии. В США, например, землю арендует каждое третье хозяйство. Практически во всех странах земля в основном приарендовывается, то есть добавляется к собственной. Значение же чистой аренды, когда производство ведется только на арендованной земле, падает.

Перераспределение земельных ресурсов является объектом государственного регулирования. Во всех странах купля-продажа, наследование, аренда земли осуществляются при той или иной форме контроля со стороны государства.

В Голландии органы земельного контроля с целью недопущения спекуляции ратифицируют каждую сделку, связанную с переходом прав собственности. В ФРГ все земли площадью более 1 га подлежат продаже только с разрешения местных властей. Для этого разработана специальная разрешительная процедура, предполагающая обоснование потенциальным покупателем покупки земли, а также и представление свидетельства о его профессиональной подготовке. В ряде стран (например, во Франции, ФРГ, Дании) купля-продажа сельскохозяйственной земли для несельскохозяйственного использования либо запрещается (если речь идет о районах с особо плодородной землей), либо ограничивается (требуется специальное разрешение местных властей, а также лиц, проживающих в данной местности). При купле-продаже земель важное значение имеет институт преимущественного права, когда законодательно устанавливается приоритет определенной категории покупателей: сельскохозяйственных производителей, лиц с сельскохозяйственными профессиями, государства.

В нашей стране обеспокоенность стала вызывать идея допуска на земельный рынок иностранных инвесторов. Как видно, такая обеспокоенность свойственна не только нам. В США, например, в 1978 году был принят специальный федеральный закон, установивший обязательную отчетность всех иностранных покупателей и собственников о совершаемых ими сделках купли сельскохозяйственной земли и формах ее использования. За непредставление информации либо ее недостоверность нарушитель подвергается крупному (до 25 проц. стоимости земли) штрафу.

Полученные на основе этого закона данные показали, что значение иностранных собственников земли в США очень мало. Они располагают всего лишь 0,2 проц. сельхозугодий, причем более чем на двух третях этих площадей сохраняется "американский интерес" (то есть наряду с иностранным инвестором собственником земли является и американский). Несмотря на это, в большинстве штатов существуют те или иные дополнительные ограничения на иностранную собственность. К ним относятся: установление предельного размера приобретаемого участка; установление предельного срока держания земли в собственности; требование продажи всей либо части земли, если иностранный собственник не получит американского гражданства или статуса резидента (постоянного жителя) данного штата.

Итак, во всех развитых странах Запада земельный собственник наделен значительными правами и свободой в их реализации. Однако следует еще раз подчеркнуть, что права эти не абсолютны. Их реализация на практике осуществляется с определенными ограничениями. Свобода земельного собственника сочетается с государственным регулированием земельных отношений. Это регулирование направлено на предотвращение спекуляции землей, недопущение чрезмерного дробления земельного фонда, повышение эффективности использования земель, превращение сельского хозяйства в отрасль профессионального производства. Вмешательство государства выступает не как ограничитель земельного рынка, а как необходимое условие его здорового функционирования.

О.МЕЛЮХИНА, И.ХРОМОВА,

**кандидаты экономических наук.**

